ISSN 0868—8621



# ВЕДАМАСЦІ

## ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

№ 7

1993 год

ВЫДАННЕ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

МІНСК




# ВЕДАМАСЦІ

## ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**5 сакавіка 1993 г.** **№ 7(81)** **Выдаюцца з 1990 г.**


**ЗМЕСТ**

*Законы і пастановы, прынятыя на дзесятай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання*

42. Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб раздзяржаўленні і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь».

43. Закон Рэспублікі Беларусь аб асновах дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі.

44. Пастанова Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб асновах дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі».

45. Закон Рэспублікі Беларусь аб Дзяржаўным бюджэце Рэспублікі Беларусь на 1993 год.

46. Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб скліканні нечарговай адзінаццатай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання.

47. Пастанова Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб праекце Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб парадку дня нечарговай адзінаццатай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь дванаццатага склікання».

ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## 39 Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у некаторыя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь у сувязі з прыняццем Закона Рэспублікі Беларусь «Аб прававым рэжыме тэрыторый, якія падвергліся радыеактыўнаму забруджанню ў выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС»*

У сувязі з прыняццем Закона Рэспублікі Беларусь ад 12 лістапада 1991 года «Аб прававым рэжыме тэрыторый, якія падвергліся радыеактыўнаму забруджанню ў выніку катастрофы на Чарнобыльскай АЭС» Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Унесці змяненні і дапаўненні ў наступныя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь:

I. У Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях, прыняты Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь 6 снежня 1984 года (ЗЗ БССР, 1984 г., № 35, арт. 505; 1985 г., № 32, арт. 449; 1986 г., № 17, арт. 227, № 28, арт. 362; 1987 г., № 22, арт. 282, № 26, арт. 337; 1988 г., № 24, арт. 377; 1989 г., № 10, арт. 94, № 12, арт. 114; 1990 г., № 6, арт. 80, № 11, арт. 138, № 13, арт. 186; Ведамасці Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, 1991 г., № 13(15), арт. 152, 153, 156, № 23, арт. 309, № 25, арт. 366, № 36, арт. 633; Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., № 15, арт. 253, 255):

1. Артыкул $46^1$ дапоўніць часткамі трэцяй і чацвёртай наступнага зместу:

«Заняцце відамі дзейнасці, забароненымі на тэрыторыях радыеактыўнага забруджання,—

цягне накладанне штрафу ў памеры ад адной да трох мінімальных заработных плат.

Учыненне паўторна на працягу года пасля прымянення мер адміністрацыйнага спагнання дзеянняў, прадугледжаных часткай трэцяй гэтага артыкула,—

цягне накладанне штрафу ў памеры пяці мінімальных заработных плат».

2. Дапоўніць Кодэкс артыкуламі $46^3$, $52^1$, $53^1$, $171^1$, $224^6$, $224^7$ наступнага зместу:

---

* *Апублікаваны ў «Народнай газеце» 22 студзеня 1993 года.*

«Артыкул 46[3]. **Парушэнне правоў грамадзян на інфармацыю па пытаннях, звязаных з чарнобыльскай катастрофай**

Прадстаўленне ўпаўнаважанымі службовымі асобамі недакладных і няправільных вынікаў вымярэнняў, або наўмыснае скажэнне, або ўтойванне даных па пытаннях, звязаных з чарнобыльскай катастрофай,—

цягне накладанне штрафу ў размеры ад адной да пяці мінімальных заработных плат».

«Артыкул 52[1]. **Парушэнне правіл выкарыстання зямель, якія падвергліся радыеактыўнаму забруджанню**

Парушэнне правіл выкарыстання зямель, якія падвергліся радыеактыўнаму забруджанню,—

цягне накладанне штрафу на грамадзян у размеры да адной мінімальнай заработнай платы і на службовых асоб — да трох мінімальных заработных плат».

«Артыкул 53[1]. **Парушэнне правіл захавання радыеактыўных адходаў, прадуктаў, матэрыялаў і іншых прадметаў, забруджаных радыенуклідамі**

Захаванне радыеактыўных адходаў, прадуктаў, матэрыялаў і іншых прадметаў, забруджаных радыенуклідамі, без наяўнасці дазволу або парушэнне норм і тэхналогіі захавання радыеактыўных адходаў —

цягне накладанне штрафу на службовых асоб у размеры ад трох да дзесяці мінімальных заработных плат».

«Артыкул 171[1]. **Парушэнне правіл радыяцыйнага кантролю**

Прымяненне сродкаў радыяцыйнага кантролю, якія не прайшлі паверку або метралагічную атэстацыю ва ўстаноўленым парадку, ці невыкананне методык правядзення вымярэнняў узроўню радыеактыўнага забруджання —

цягне накладанне штрафу на службовых асоб у размеры ад адной да трох мінімальных заработных плат».

«Артыкул 224[6]. **Органы Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па праблемах вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС**

Органы Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па праблемах вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС разглядаюць



справы аб адміністрацыйных правапарушэннях, прадугледжаных артыкуламі 46[1], 52[1], 53[1] гэтага Кодэкса.

Разглядаць справы аб адміністрацыйных правапарушэннях і накладаць адміністрацыйныя спагнанні ад імя органаў Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па праблемах вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС маюць права Старшыня Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па праблемах вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС, начальнік адміністрацыі зон адчужэння і адсялення і яго намеснікі.

Артыкул 224[7]. **Органы Камітэта стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі**

Органы Камітэта стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі разглядаюць справы аб адміністрацыйных правапарушэннях, прадугледжаных артыкулам 171[1] гэтага Кодэкса.

Разглядаць справы аб адміністрацыйных правапарушэннях і накладаць адміністрацыйныя спагнанні ад імя органаў Камітэта стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі маюць права Старшыня Камітэта стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі, яго намеснікі, дырэктары цэнтраў стандартызацыі і метралогіі і іх намеснікі».

3. У частцы першай артыкула 199 лічбы «171—183[1]» замяніць лічбамі «171, 172—183[1]».

4. Артыкул 202 пасля лічбаў «46[2]» дапоўніць лічбамі «46[3]».

5. Частку першую артыкула 211 пасля слова «прадугледжаных» і частку першую артыкула 215 пасля лічбаў «43» дапоўніць адпаведна словамі «артыкулам 53[1]» і лічбамі «53[1]».

6. У частцы другой артыкула 234[1]:

у абзацы першым лічбы «203—224[5]» замяніць лічбамі «203—224[7]»;

пункт 1 дапоўніць абзацамі восьмым і дзевятым наступнага зместу:

«органаў Дзяржаўнага камітэта Рэспублікі Беларусь па праблемах вынікаў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС (артыкулы 46[1], 52[1], 53[1]);

органаў Камітэта стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі (артыкул 171[1])».

II. У Крымінальны кодэкс Рэспублікі Беларусь, зацверджаны Законам Рэспублікі Беларусь ад 29 снежня 1960 года (ЗЗ БССР, 1961 г., № 1, арт. 4):

дапоўніць Кодэкс артыкулам 211[5] наступнага зместу:

«Артыкул 211[5]. Парушэнне правіл радыяцыйнага кантролю

Прымяненне сродкаў радыяцыйнага кантролю, якія не прай-

шлі паверку або метралагічную атэстацыю ва ўстаноўленым парадку, ці невыкананне методык правядзення вымярэнняў узроўню радыеактыўнага забруджання, учыненае паўторна на працягу года пасля прымянення мер адміністрацыйнага спагнання,—

караецца папраўчымі работамі на тэрмін да двух гадоў або штрафам у размеры ад пяці да дзесяці мінімальных заработных плат».

III. У частцы чацвёртай артыкула 123 Крымінальна-працэсуальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь, зацверджанага Законам Рэспублікі Беларусь 29 снежня 1960 года (ЗЗ БССР, 1961 г., № 1, арт. 5; 1985 г., № 5, арт. 65, № 21, арт. 302, № 32, арт. 449; 1986 г., № 17, арт. 227; 1987 г., № 22, арт. 282, № 26, арт. 336; 1988 г., № 9, арт. 143; 1990 г., № 13, арт. 187; Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1991 г., № 36, арт. 633; 1992 г., № 15, арт. 255):

лічбы «$211^1$, $211^2$, $211^3$, $211^4$» замяніць лічбамі «$211^1$—$211^5$».

IV. Гэты Закон уводзіцца ў дзеянне з дня яго апублікавання.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

9 снежня 1992 года, гор. Мінск.
№ 2028—XII.

ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## 40 Аб унясенні дапаўнення ў артыкул 21 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб ветэранах»*

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Дапоўніць абзац трэці часткі другой атрыкула 21 Закона Рэспублікі Беларусь «Аб ветэранах» словамі:

«былых паўналетніх вязняў фашысцкіх канцлагераў».

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

15 снежня 1992 года, гор. Мінск.
№ 2041—XII.

* *Апублікаваны ў «Народнай газеце» 29 студзеня 1993 года.*



ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## 41 Аб раздзяржаўленні і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь*

Гэты Закон вызначае прававыя асновы раздзяржаўлення і прыватызацыі, а таксама правілы і парадак прыватызацыі аб'ектаў, што знаходзяцца ў дзяржаўнай (рэспубліканскай і камунальнай) уласнасці.

Закон накіраваны на стварэнне ўмоў для развіцця эфектыўнай сацыяльна арыентаванай рынчанай эканомікі, забеспячэнне рэальнай разнастайнасці форм уласнасці і ажыццяўленне дзяржаўнай антыманапольнай палітыкі.

### Раздзел I
### АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

Артыкул 1. **Паняцце раздзяржаўлення і прыватызацыі**

Раздзяржаўленне — перадача ад дзяржавы фізічным і юрыдычным асобам часткова або поўнасцю (у тым ліку праз прыватызацыю) функцый непасрэднага кіравання гаспадарніцкімі суб'ектамі.

Раздзяржаўленне ажыццяўляецца ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь і Дзяржаўнай праграмай прыватызацыі.

Прыватызацыя — набыццё фізічнымі і юрыдычнымі асобамі права ўласнасці на аб'екты, якія належаць дзяржаве.

У выніку прыватызацыі дзяржава поўнасцю або часткова страчвае правы валодання, карыстання і распараджэння дзяржаўнай уласнасцю, а дзяржаўныя органы страчваюць правы непасрэднага кіравання ёю.

Прыватызацыя ажыццяўляецца шляхам бязвыплатнай перадачы і продажу дзяржаўнай уласнасці.

Артыкул 2. **Заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб прыватызацыі**

Прыватызацыя дзяржаўнай уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь рэгулюецца гэтым Законам і іншым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

* *Апублікаваны ў газетах: «Звязда» — 16 лютага 1993 года, «Народная газета» — 18 лютага 1993 года.*

Прыватызацыя дзяржаўнай уласнасці, што знаходзіцца за межамі Рэспублікі Беларусь, рэгулюецца гэтым Законам, калі іншае не прадугледжана міжнароднымі дагаворамі і пагадненнямі.

Асаблівасці набыцця дзяржаўнай уласнасці замежнымі фізічнымі і юрыдычнымі асобамі, а таксама юрыдычнымі асобамі з удзелам замежных інвестараў вызначаюцца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь аб замежных інвестыцыях.

Асаблівасці прыватызацыі зямлі вызначаюцца заканадаўствам Рэспублікі Беларусь аб зямлі.

Асаблівасці прыватызацыі дзяржаўнага і грамадскага жылля вызначаюцца Законам Рэспублікі Беларусь «Аб прыватызацыі жыллёвага фонду ў Рэспубліцы Беларусь» і іншым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Артыкул 3. **Аб'екты прыватызацыі**

Аб'ектамі прыватызацыі з'яўляюцца знаходзячыеся ў дзяржаўнай уласнасці:

жыллё, прыдпрыемствы, цэхі, вытворчасці, участкі, іншыя падраздзяленні гэтых прадпрыемстваў, якія выдзяляюцца ў самастойныя прадпрыемствы, абсталяванне, будынкі, збудаванні, ліцэнзіі, патэнты, іншыя матэрыяльныя і нематэрыяльныя актывы прадпрыемстваў і іх падраздзяленняў;

долі (паі, акцыі) дзяржавы і адміністрацыйна-тэрытарыяльных утварэнняў у капітале акцыянерных таварыстваў (суполак);

долі (паі, акцыі), якія належаць прадпрыемствам, што прыватызуюцца, у капітале іншых акцыянерных таварыстваў (суполак), а таксама асацыяцый, канцэрнаў, саюзаў і іншых аб'яднанняў і прыдпрыемстваў.

Не падлягаюць раздзяржаўленню і прыватызацыі прадпрыемствы (аб'яднанні), арганізацыі і віды маёмасці, пералік якіх зацвярджаецца Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь на аснове прапаноў Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

У выключных выпадках у мэтах абароны інтарэсаў Рэспублікі Беларусь і яе бяспекі Прэзідыуму Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прадастаўляецца права дапаўняць пералік аб'ектаў, якія не падлягаюць прыватызацыі.

Артыкул 4. **Суб'екты прыватызацыі**

Суб'ектамі, якія набываюць дзяржаўную ўласнасць у працэсе прыватызацыі, могуць быць:

грамадзяне Рэспублікі Беларусь;

юрыдычныя асобы Рэспублікі Беларусь, дзейнасць якіх заснавана на недзяржаўных формах уласнасці;



працоўныя калектывы дзяржаўных прадпрыемстваў, якія ўтварылі або арганізацыю арандатараў, або гаспадарчае таварыства ці суполку, як самастойныя юрыдычныя асобы ў адпаведнасці з дзеючым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь;

замежныя інвестары;

асобы без грамадзянства.

Юрыдычнымі асобамі, дзейнасць якіх заснавана на недзяржаўных формах уласнасці, прызнаюцца асобы, у якіх больш 75 працэнтаў статутнага капіталу ўтворана прамымі або ўскоснымі ўкладамі, што не адносяцца да дзяржаўнай уласнасці.

Артыкул 5. **Прадстаўнікі суб'ектаў прыватызацыі**

Суб'екты прыватызацыі могуць дзейнічаць праз сваіх прадстаўнікоў (даверaных асоб) у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

## Раздзел II
## АСНОЎНЫЯ ПРЫНЦЫПЫ, ПРАГРАМЫ І ОРГАНЫ ПРЫВАТЫЗАЦЫІ

Артыкул 6. **Асноўныя прынцыпы прыватызацыі**

Асноўнымі прынцыпамі правядзення прыватызацыі з'яўляюцца:

спалучэнне платнага і бязвыплатнага спосабаў прыватызацыі;

права кожнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь на частку дзяржаўнай уласнасці, якая перадаецца бязвыплатна;

дыферэнцыяцыя метадаў, форм і працэдур прыватызацыі;

размежаванне кампетэнцыі па ажыццяўленню прыватызацыі паміж органамі дзяржаўнай улады і кіравання розных узроўняў;

прадастаўленне пэўных сацыяльных гарантый членам працоўных калектываў прадпрыемстваў, якія прыватызуюцца;

кантроль за ажыццяўленнем прыватызацыі з боку дзяржавы;

забеспячэнне шырокай галоснасці працэсу прыватызацыі;

паступовасць і паэтапнасць;

выкананне законнасці.

Артыкул 7. **Рэалізацыя асноўных прынцыпаў прыватызацыі**

Асноўныя прынцыпы прыватызацыі рэалізуюцца Дзяржаўнай праграмай прыватызацыі, якая вызначае:

мэты, задачы і тэрміны этапаў прыватызацыі;

прыярытэты і абмежаванні;

крыніцы фінансавання ажыццяўлення работ па прыватызацыі і напрамкі расходавання сродкаў;

задачы органаў дзяржаўнай улады і кіравання;

іншыя напрамкі працэсу прыватызацыі.

Дзяржаўная праграма прыватызацыі зацвярджаецца Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь па прадстаўленню Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Кантроль за ажыццяўленнем Дзяржаўнай праграмы прыватызацыі ажыццяўляюць Кантрольная палата Рэспублікі Беларусь і іншыя ўпаўнаважаныя на тое органы.

Артыкул 8. **Праграмы прыватызацыі**

Праграмы прыватызацыі дзяржаўных аб'ектаў, якія знаходзяцца ў рэспубліканскай уласнасці, зацвярджаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Праграмы прыватызацыі дзяржаўных аб'ектаў, якія знаходзяцца ў камунальнай уласнасці, зацвярджаюцца мясцовымі Саветамі народных дэпутатаў.

На падставе праграм органамі прыватызацыі складаюцца пералікі дзяржаўных аб'ектаў, якія падлягаюць прыватызацыі.

Артыкул 9. **Органы прыватызацыі, іх функцыі**

Пры ажыццяўленні прыватызацыі рэспубліканскай уласнасці інтарэсы дзяржавы як уласніка прадстаўляе і абараняе орган Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю, а аб'ектаў, якія знаходзяцца ў камунальнай уласнасці,— органы прыватызацыі мясцовых Саветаў народных дэпутатаў.

Органы прыватызацыі:

распрацоўваюць праграмы прыватызацыі;

арганізуюць і кантралююць рэалізацыю ўказаных праграм;

ажыццяўляюць кіраўніцтва працэсамі прыватызацыі. У выпадку парушэння заканадаўства Рэспублікі Беларусь аб прыватызацыі ўзбуджаюць у судовым парадку іскі аб прызнанні незаконнымі прынятых рашэнняў і прыцягненні да адказнасці вінаватых службовых асоб;

ствараюць камісіі па прыватызацыі;

прымаюць рашэнні аб прыватызацыі;

ажыццяўляюць неабходныя пераўтварэнні арганізацыйна-прававых форм дзяржаўных прадпрыемстваў, якія падлягаюць прыватызацыі;

валодаюць пасведчаннямі аб уласнасці на дзяржаўныя прадпрыемствы і маёмасныя долі ў капітале акцыянерных і іншых гаспадарчых таварыстваў у парадку, устаноўленым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь;



выступаюць заснавальнікамі акцыянерных і іншых гаспадарчых таварыстваў;

атрымліваюць дывідэнды, даходы на долі (паі) і выручку ад раздзяржаўлення і прыватызацыі дзяржаўных прадпрыемстваў і рыхтуюць прапановы аб іх выкарыстанні ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь;

абменьваюць акцыі дзяржаўных прадпрыемстваў Рэспублікі Беларусь на акцыі юрыдычных асоб іншых дзяржаў і прадпрыемстваў недзяржаўных форм уласнасці;

арганізуюць і праводзяць конкурсы і аўкцыёны па продажу аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці;

ствараюць (ліквідуюць) у сваім складзе адпаведныя фонды для ажыццяўлення функцый валодання і распараджэння дзяржаўнай маёмасцю;

ажыццяўляюць іншыя неабходныя пры прыватызацыі функцыі.

## Раздзел III
## БЯЗВЫПЛАТНАЯ ПЕРАДАЧА ЧАСТКІ ДЗЯРЖАЎНАЙ УЛАСНАСЦІ

Артыкул 10. **Мэта бязвыплатнай перадачы дзяржаўнай уласнасці**

Мэтай бязвыплатнай перадачы часткі дзяржаўнай уласнасці толькі грамадзянам Рэспублікі Беларусь з'яўляецца забеспячэнне сацыяльнай роўнасці ў працэсе прыватызацыі на этапе пераходу да рыначнай эканомікі.

Артыкул 11. **Размеркаванне дзяржаўнай уласнасці, якая перадаецца бязвыплатна**

Дзяржава ў асобе Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь вызначае (на перыяд бязвыплатнай прыватызацыі) долю дзяржаўнай уласнасці, якая бязвыплатна перадаецца грамадзянам Рэспублікі Беларусь у працэсе прыватызацыі.

Частка дзяржаўнай уласнасці, якая бязвыплатна перадаецца кожнаму грамадзяніну, вызначаецца дзвюма квотамі:

жыллёвай квотай на падставе Закона Рэспублікі Беларусь «Аб прыватызацыі жыллёвага фонду ў Рэспубліцы Беларусь» і гэтага Закона;

квотай на маёмасць дзяржаўных прадпрыемстваў на падставе гэтага Закона і Закона Рэспублікі Беларусь «Аб імянных прыватызацыйных чэках Рэспублікі Беларусь».

Грамадзянін мае права аб'яднаць квоты для іх рэалізацыі ў адпаведнасці з гэтым Законам. У гэтых выпадках для аб'яднання квот выкарыстоўваюцца каэфіцыенты іх эквівалентнага пераводу, якія ўстанаўліваюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Для рэалізацыі права выкарыстання квот грамадзянамі Рэспублікі Беларусь ім выдаюцца імянныя прыватызацыйныя чэкі «Жыллё» і «Маёмасць» у адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб імянных прыватызацыйных чэках Рэспублікі Беларусь».

Артыкул 12. **Выкарыстанне квот**

Квоты ў першую чаргу выкарыстоўваюцца грамадзянамі Рэспублікі Беларусь па іх мэтаваму прызначэнню. Стымуляванне выкарыстання квот па мэтаваму прызначэнню праводзіцца дзяржавай на падставе заканадаўства Рэспублікі Беларусь.

Не выкарыстаныя ў працэсе прыватызацыі квоты пагашаюцца дзяржавай.

Артыкул 13. **Выкарыстанне жыллёвай квоты**

Жыллёвая квота выкарыстоўваецца для прыватызацыі жылых памяшканняў у дамах дзяржаўнага і грамадскага жыллёвага фонду.

Пры немагчымасці выкарыстання жыллёвай квоты часткова або поўнасцю па яе мэтаваму прызначэнню яна можа быць накіравана на прыватызацыю маёмасці дзяржаўных прадпрыемстваў у адпаведнасці з гэтым Законам і іншым заканадаўствам Рэспублікі Беларусь аб прыватызацыі.

## Раздзел IV
## АРГАНІЗАЦЫЯ І ПАРАДАК ПРАВЯДЗЕННЯ ПРЫВАТЫЗАЦЫІ МАЁМАСЦІ ДЗЯРЖАЎНЫХ АБ'ЕКТАЎ

Артыкул 14. **Прапанова па прыватызацыі**

Аб'екты дзяржаўнай уласнасці, якія плануюцца да прыватызацыі, уключаюцца ў пералік аб'ектаў, што прыватызуюцца, як па ініцыятыве органаў прыватызацыі, так і па прапанове працоўных калектываў, фізічных і юрыдычных асоб.

Прапанова павінна змяшчаць:

назву аб'екта, які прапаноўваецца да прыватызацыі;

тэрміны прыватызацыі;

папярэднюю ацэнку кошту аб'екта;

крыніцы сродкаў для выкупу аб'екта;

напрамкі выкарыстання аб'екта пасля яго прыватызацыі;



спіс і паўнамоцтвы асоб, якія прадстаўляюць інтарэсы суб'екта прыватызацыі.

Юрыдычнымі асобамі дадаткова прадстаўляецца натарыяльна завераная копія іх статута.

Прапанова працоўнага калектыву аб уключэнні дзяржаўнага прадпрыемства ў пералік аб'ектаў, якія прыватызуюцца, падаюцца на аснове рашэння вышэйшага органа самакіравання працоўнага калектыву ўпаўнаважанымі на тое гэтым рашэннем асобамі.

Прапанова па прыватызацыі дзяржаўнага аб'екта падаецца ў орган прыватызацыі па месцы знаходжання аб'екта прыватызацыі.

Артыкул 15. **Парадак разгляду прапановы**

Прапанова аб прыватызацыі аб'екта дзяржаўнай уласнасці разглядаецца адпаведным органам прыватызацыі ў месячны тэрмін з дня яе паступлення.

Рашэнне органа прыватызацыі ў тыднёвы тэрмін пасля яго прыняцця ў пісьмовай форме паведамляецца суб'екту, які падаў прапанову на прыватызацыю.

Рашэнне змяшчае згоду, тэрміны і ўмовы правядзення прыватызацыі або матываваную адмову.

Адмова ў прыняцці прапановы на прыватызацыю магчыма толькі ў выпадку, калі ёсць устаноўленыя абмежаванні або забарона на прыватызацыю.

Адмова органа прыватызацыі ў прыняцці прапановы можа быць абскарджана суб'ектам прыватызацыі ў судовым парадку.

Артыкул 16. **Камісія па прыватызацыі**

Пры станоўчым рашэнні аб прыватызацыі адпаведны орган прыватызацыі ставарае камісію па прыватызацыі, якая арганізуе выкананне работ, звязаных з прыватызацыяй, устанаўлівае тэрмін падрыхтоўкі заключэння аб магчамасці прыватызацыі дадзенага аб'екта. Гэты тэрмін не можа перавышаць шасці месяцаў з моманту падачы прапановы.

У склад камісіі ўваходзяць прадстаўнікі органаў прыватызацыі, падатковай інспекцыі, адміністрацыі, прадстаўнікі працоўнага калектыву (у выпадку прыватызацыі прадпрыемства працоўным калектывам).

Камісія па прыватызацыі:

вызначае кошт аб'екта;

пры прыватызацыі прадпрыемства выяўляе яго дэбітораў і крэдытораў і прымае меры для разлікаў з імі;

прымае рашэнне аб умовах уключэння ў склад маёмасці, што прыватызуецца, аб'ектаў сацыяльнай інфраструктуры, якія знаходзяцца на балансе прадпрыемства;

робіць заключэнне аб магчымасці прыватызацыі аб'екта;

знаёміцца з любымі дакументамі, якія датычацца дзейнасці аб'екта;

пры неабходнасці патрабуе пісьмовыя тлумачэнні ад службовых асоб і спецыялістаў;

праводзіць рэвізію і інвентарызацыю.

З моманту стварэння камісія мае права адмяняць любыя рашэнні органаў кіравання аб'екта, што прыватызуецца, якія выклікаюць змяненні складу і ацэнку яго маёмасці. Прадпісанні камісіі абавязковыя для выканання органамі кіравання аб'екта. Спрэчныя пытанні, якія вынікаюць з гэтых дзеянняў, вырашаюцца ў судзе.

Камісія мае права прыцягваць да дзейнасці спецыялістаў, экспертаў, іншыя арганізацыі.

Старшынёй камісіі назначаецца прадстаўнік органаў прыватызацыі. Камісія дае заключэнне па прыватызацыі аб'екта. Члены камісіі нясуць персанальную адказнасць за аб'ектыўнасць матэрыялаў, падрыхтаваных для прыняцця рашэння аб прыватызацыі аб'екта.

Камісія спыняе работу пры выключэнні аб'екта з пераліку дзяржаўных аб'ектаў, якія падлягаюць прыватызацыі, або пасля завяршэння яго прыватызацыі.

Артыкул 17. **Прыняцце рашэння аб прыватызацыі**

На падставе заключэння камісіі орган прыватызацыі:

прымае канчатковае рашэнне аб прыватызацыі дзяржаўнага аб'екта;

уносіць змяненні ў пералік аб'ектаў, якія намячаюцца да прыватызацыі;

прымае рашэнне аб ацэначным кошце аб'екта, які прыватызуецца, аб канчатковых тэрміне і ўмовах продажу (конкурсу);

рыхтуе інфармацыю аб кожным аб'екце, які прапануецца да прыватызацыі, для яе апублікавання.

Артыкул 18. **Інфармацыя аб прыватызацыі**

Пасля зацвярджэння праграмы прыватызацыі не пазней чым праз месяц у спецыяльным рэспубліканскім інфармацыйным бюлетэні і органах мясцовага друку павінен быць апублікаваны



пералік аб'ектаў, якія прапаноўваюцца да прыватызацыі.

У пераліку ўказваюцца:

поўная і скарочаная назва аб'екта;

яго адрас;

орган, які ажыццяўляе прыватызацыю дадзенага аб'екта, і яго месцазнаходжанне;

тэрміны прыватызацыі, якія плануюцца;

тэрміны прад'яўлення прэтэнзій да аб'екта, які прыватызуецца;

кошт маёмасці;

пералік асноўных фондаў па групах;

плошча зямельнага ўчастка і характарыстыкі размешчаных на ім будынкаў, умовы іх арэнды або продажу;

пачатыя інвестыцыйныя праекты, іх каштарысная вартасць і зробленыя па іх затраты;

умовы продажу, у тым ліку па далейшаму выкарыстанню аб'екта.

Пры прыватызацыі прадпрыемстваў падлягаюць апублікаванню дадаткова наступныя звесткі:

колькасць працуючых і іх кваліфікацыйны склад;

фінансавы стан з улікам магчымасці пагашэння крэдыторскай і дэбіторскай запазычанасцей;

наяўнасць долей (паёў, акцый), якія належаць прадпрыемству, у актывах іншых прадпрыемстваў;

нематэрыяльныя каштоўнасці (патэнты, гандлёвыя знакі і іншыя);

абавязацельствы прадпрыемства;

баланс прадпрыемства за папярэдні год;

узбуйненая наменклатура прадукцыі, якая выпускаецца;

іншыя звесткі, якія вызначаюцца органам Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю.

Адпаведны орган прыватызацыі ажыццяўляе публікацыю інфармацыі і нясе адказнасць за дакладнасць апублікаваных даных.

У месячны тэрмін з моманту апублікавання інфармацыі асобы, якія жадаюць набыць аб'екты, што прыватызуюцца, павінны падаць заяву ў орган прыватызацыі, які апублікаваў дадзеную інфармацыю. Асобы, якія не падалі своечасова заяву, да прыватызацыі дадзенага аб'екта не дапускаюцца.

Артыкул 19. **Выбар умоў і правіл продажу аб'екта (конкурсу, аўкцыёну)**

Орган прыватызацыі вольны ў выбары ўмоў і правіл правядзення продажу аб'екта (конкурсу, аўкцыёну). Пры гэтым орган прыватызацыі не можа адхіляць ад удзелу ў конкурсе, аўкцыёне суб'ектаў прыватызацыі, якія своечасова падалі заяву на набыццё аб'екта.

Для прыватызацыі аб'ектаў, якія знаходзяцца ў камунальнай уласнасці, у выпадках прыватызацыі замежнымі юрыдычнымі і фізічнымі асобамі або асобамі без грамадзянства органы прыватызацыі мясцовых Саветаў народных дэпутатаў абавязаны атрымаць дазвол органа Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю.

Артыкул 20. **Аплата аб'екта, які прыватызуецца**

Аплата аб'екта, які прыватызуецца, можа праводзіцца аднаразова або ў растэрміноўку плацяжоў з улікам інфляцыі на ўмовах дагавора.

Для аплаты за набыццё аб'екта нараўне з грашовымі сродкамі выкарыстоўваюцца імянныя прыватызацыйныя чэкі.

Пры набыцці маёмасці, якая прыватызуецца, на перыяд бязвыплатнай прыватызацыі пры любых умовах прыватызацыі (выкуп, аўкцыён, конкурс) 50 працэнтаў ацэначнага кошту аб'екта, які прыватызуецца, аплачваецца імяннымі прыватызацыйнымі чэкамі па іх намінальнаму кошту з улікам індэксацыі.

Артыкул 21. **Парадак афармлення здзелак пры прыватызацыі**

Заключаная здзелка па набыццю аб'екта, які прыватызуецца, афармляецца дагаворам паміж органам прыватызацыі і новым уласнікам (суб'ектам прыватызацыі) у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Дагавор вызначае:

парадак і тэрміны перадачы аб'екта;

форму і тэрміны плацяжу;

узаемныя абавязацельствы бакоў па далейшаму выкарыстанню аб'екта;

іншыя ўмовы, якія ўстанаўліваюцца па пагадненню бакоў, калі іншае не прадугледжана заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Аб'екты сацыяльнай інфраструктуры, якія знаходзіліся на балансе дзяржаўнага прадпрыемства, што прыватызуецца, могуць быць перададзены новаму ўласніку гэтага прадпрыемства бязвыплатна без права распараджэння з умовай гарантыі захавання іх мэтавага выкарыстання па дагавору з органам, які кіруе адпаведнай дзяржаўнай маёмасцю.

Дагавор пасля яго падпісання на працягу 10 дзён павінен быць зарэгістраваны ў адпаведным органе прыватызацыі.

Артыкул 22. **Афармленне права ўласнасці**

Правы валодання і карыстання пераходзяць да новага ўласніка пасля рэгістрацыі дагавора. Права распараджэння аб'ектам настае з моманту выдачы пасведчання.

Пасведчанне аб праве ўласнасці выдаецца органам Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю пры прыватызацыі аб'ектаў рэспубліканскай уласнасці і выканаўчым камітэтам мясцовага Савета народных дэпутатаў па аб'ектах уласнасці адміністрацыйна-тэрытарыяльных утварэнняў на працягу месяца пасля ўнясення плацяжу ў адпаведнасці з дагаворам і прадстаўлення неабходных дакументаў.

Прыватызаванае прадпрыемства падлягае рэгістрацыі ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь як навастворанае. У назве прадпрыемства павінны быць выключаны тэрміны, якія ўказваюць яго дзяржаўную і ведамасную прыналежнасць.

## Раздзел V
## ГАРАНТЫІ І АДКАЗНАСЦЬ

Артыкул 23. **Гарантыі работнікам дзяржаўных прадпрыемстваў, якія прыватызуюцца**

Юрыдычныя асобы, утвораныя працоўнымі калектывамі, якія ўдзельнічаюць у прыватызацыі сваіх прадпрыемстваў, набываюць іх па цане на 20 працэнтаў менш ад сумы, што падлягае аплаце грашамі.

Калі дзяржаўнае прадпрыемства, якое прыватызуецца, набыта юрыдычнай або фізічнай асобай, то новы ўласнік абавязаны ў тэрміны, агавораныя ў дагаворы, па патрабаванню членаў працоўнага калектыву выкупіць па намінальнаму кошту з улікам індэксацыі іх імянныя прыватызацыйныя чэкі, атрыманыя бязвыплатна, або прапанаваць ім адпаведную долю ва ўласнасці прадпрыемства.

Падрыхтоўка і ажыццяўленне прыватызацыі не могуць быць падставай прыпынення дзейнасці прадпрыемства.

Па абавязацельствах, якія вынікаюць з працоўных адносін, да завяршэння прыватызацыі адказнасць нясе дзяржава.

З моманту завяршэння прыватызацыі гэтыя абавязацельствы пераходзяць да новага ўласніка.

Пасля прыватызацыі дзяржаўнага прадпрыемства члены працоўнага калектыву атрымліваюць права ў кіраванні прадпрыемствам у адпаведнасці з доляй уласнасці, якая належыць ім.

Артыкул 24. **Гарантыі ўласніку прыватызаванага аб'екта**

Дзяржава гарантуе абарону правоў уласніка аб'екта, якія вынікаюць з дагавора аб набыцці прыватызаванага дзяржаўнага аб'екта.

Уласнік прыватызаванага дзяржаўнага аб'екта не нясе адказнасці па даўгах, прэтэнзіі па якіх не прад'яўлены ў тэрміны, устаноўленыя органам прыватызацыі, і не апублікаваных у адпаведнасці з артыкулам 18 гэтага Закона.

**Раздзел VI**
**ЗАКЛЮЧНЫЯ ПАЛАЖЭННІ**

Артыкул 25. **Несапраўднасць здзелак па прыватызацыі**

Здзелкі па прыватызацыі дзяржаўных аб'ектаў, заключаныя з парушэннем гэтага Закона пасля ўвядзення яго ў дзеянне, прызнаюцца несапраўднымі з моманту іх заключэння.

Спрэчкі аб прызнанні несапраўднымі здзелак разглядаюцца ў судовым парадку паісках зацікаўленых бакоў, органаў прыватызацыі, пракуратуры.

Артыкул 26. **Адказнасць за парушэнне гэтага Закона**

Асобы, якія сваімі незаконнымі дзеяннямі садзейнічалі заключэнню здзелак у парушэнне гэтага Закона, нясуць крымінальную і адміністрацыйную адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь. Асобы, вінаватыя ва ўчыненні такіх дзеянняў, пакрываюць пацярпеўшым страты ў поўным аб'ёме.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

19 студзеня 1993 года, гор. Мінск.
№ 2103—XII.

---

ПАСТАНОВА
ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## 42 Аб парадку ўвядзення ў дзеянне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб раздзяржаўленні і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Увесці ў дзеянне Закон Рэспублікі Беларусь «Аб раздзяржаўленні і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь» з дня яго апублікавання.

2. Устанавіць, што:

прыватызацыі падлягае маёмасць Рэспублікі Беларусь і адміністрацыйна-тэрытарыяльных утварэнняў;

бязвыплатна ў размеры квот, якія прыпадаюць на кожнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусь, перадаюцца 50 працэнтаў маёмасці аб'ектаў, што прыватызуюцца.

3. Устанавіць, што да прывядзення заканадаўства Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб раздзяржаўленні і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь» прымяняецца дзеючае заканадаўства Рэспублікі Беларусь пастолькі, паколькі яно не супярэчыць дадзенаму Закону.

4. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь у трохмесячны тэрмін:

падрыхтаваць і ўнесці на разгляд Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прапановы аб прывядзенні заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з гэтым Законам;

распрацаваць і прадставіць на зацвярджэнне Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Дзяржаўную праграму прыватызацыі на 1993 год;

унесці ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прапанову па пераліку прадпрыемстваў (аб'яднанняў), арганізацый і відаў маёмасці, якія не падлягаюць раздзяржаўленню і прыватызацыі;

прывесці нарматыўныя акты Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь у адпаведнасць з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб раздзяржаўленні і прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці ў Рэспубліцы Беларусь»;

забяспечыць перагляд міністэрствамі, дзяржаўнымі камітэтамі і ведамствамі Рэспублікі Беларусь іх нарматыўных актаў;

распрацаваць і зацвердзіць да 1 красавіка 1993 года праграму прыватызацыі дзяржаўных аб'ектаў, якія знаходзяцца ў рэспубліканскай уласнасці, на 1993 год;

распрацаваць і зацвердзіць палажэнні аб ацэнцы аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці, аб камісіях па прыватызацыі дзяржаўнай уласнасці, аб аўкцыёнах і конкурсах па набыццю аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці, аб пакрыцці затрат, звязаных з работай камісіі па прыватызацыі, тыпавы дагавор паміж органам прыватызацыі і новым уласнікам і іншыя;

распрацаваць і зацвердзіць палажэнні аб спецыялізаваных інвестыцыйных фондах;

забяспечыць распрацоўку і прыняцце нарматыўных актаў, неабходных для выпуску, выдачы, абарачэння і пагашэння імянных прыватызацыйных чэкаў.

5. Мясцовым Саветам народных дэпутатаў:

распрацаваць і зацвердзіць да 1 красавіка 1993 года праграмы прыватызацыі аб'ектаў, што знаходзяцца ва ўласнасці адміністрацыйна-тэрытарыяльных утварэнняў;

вызначыць крыніцы фінансавання работ па прыватызацыі, распрацаваць і зацвердзіць палажэнне аб органах прыватызацыі ўласнасці адміністрацыйна-тэрытарыяльных утварэнняў.

6. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь у двухмесячны тэрмін вызначыць крыніцы фінансавання работ па прыватызацыі. Сумесна з Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь распрацаваць парадак утварэння і выкарыстання сродкаў ад прыватызацыі і ўнесці яго на разгляд Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

7. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь сумесна з Нацыянальным банкам Рэспублікі Беларусь у месячны тэрмін унесці ў Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь прапановы аб размерах і парадку збірання пошлін за паслугі, звязаныя з прыватызацыяй.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.**

19 студзеня 1993 года, гор. Мінск.
№ 2104—XII.

---

ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## 43 Аб асновах дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі*

Гэты Закон з'яўляецца асноватворным у навукова-тэхнічнай сферы і прадугледжвае комплекс метадаў і сродкаў удзелу дзяржавы ў кіраванні навуковымі даследаваннямі, выкарыстанні іх

* *Апублікаваны ў газетах: «Звязда» — 5 лютага 1993 года, «Народная газета» — 10 лютага 1993 года.*



вынікаў, тэхнічным абнаўленні вытворчасці. Законам рэгулююцца адносіны, якія ўзнікаюць паміж органамі дзяржаўнай улады і кіравання і ўсімі суб'ектамі навукова-тэхнічнай дзейнасці ў працэсе фарміравання і рэалізацыі дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі. У адпаведнасці з гэтым Законам распрацоўваюцца іншыя нарматыўна-прававыя акты, якія рэгламентуюць навукова-тэхнічную дзейнасць Рэспублікі Беларусь.

Закон вызначае, што навука знаходзіцца пад апекай дзяржавы і карыстаецца яе падтрымкай як выключна важная сфера не толькі ў галіне эканамічнага развіцця, а і ў галіне культуры, гісторыі, грамадскіх адносін, забяспечвае эканамічныя і прававыя гарантыі развіцця навукова-тэхнічнай дзейнасці.

### Раздзел I
### АГУЛЬНЫЯ ПАЛАЖЭННІ

Артыкул 1. **Паняцце дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі**

Дзяржаўная навукова-тэхнічная палітыка з'яўляецца неад'емнай часткай сацыяльна-эканамічнай палітыкі Рэспублікі Беларусь і ўключае ў сябе ўстаноўленыя гэтым Законам асноўныя мэты, прынцыпы, напрамкі і спосабы ўздзеяння дзяржавы на ўдзельнікаў навуковай (фундаментальныя і прыкладныя навуковыя даследаванні), тэхнічнай (вопытна-канструктарскія і тэхналагічныя распрацоўкі, выраб доследных узораў) і інавацыйнай (вытворчае асваенне і тыражаванне наваўвядзенняў) дзейнасці.

Артыкул 2. **Прававыя асновы дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі**

Заканадаўства аб дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыцы складаецца з гэтага Закона і іншых заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь.

Артыкул 3. **Асноўныя мэты дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі**

Асноўнымі мэтамі дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі Рэспублікі Беларусь з'яўляюцца:

выкарыстанне навукова-тэхнічнага прагрэсу для павышэння эканамічнай эфектыўнасці вытворчасці, паляпшэння экалагічнага становішча ў рэспубліцы;

дасягненне высокага інтэлектуальнага і культурнага ўзроўняў грамадства, накіраваных на паляпшэнне якасці жыцця народа.

Артыкул 4. **Змест дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі**

Зместам дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі Рэспублікі Беларусь з'яўляецца стварэнне органамі дзяржаўнай улады і кіравання рэспублікі неабходных прававых, эканамічных, арганізацыйных і іншых умоў, якія спрыяюць навукова-тэхнічнай і інавацыйнай дзейнасці, фарміраванне структур, што абараняюць правы і інтарэсы грамадзян і дзяржавы ў навукова-тэхнічнай сферы.

Артыкул 5. **Асноўныя прынцыпы дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі Рэспублікі Беларусь**

Асноўнымі прынцыпамі дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі Рэспублікі Беларусь з'яўляюцца:

дзяржаўная падтрымка фундаментальнай навукі;

выбар навукова-тэхнічных прыярытэтаў і першачарговая дзяржаўная падтрымка навукова-даследчых і вопытна-канструктарскіх работ, якія садзейнічаюць вырашэнню важнейшых праблем развіцця Рэспублікі Беларусь;

арыентацыя навукова-тэхнічнай дзейнасці на пераважнае развіццё ў рэспубліцы рэсурса-, энерга- і працазберагаючых навукаёмістых вытворчасцей і тэхналогій;

размежаванне паўнамоцтваў органаў дзяржаўнай улады і кіравання па пытаннях фарміравання і рэалізацыі дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі;

расшырэнне ўдзелу мясцовых органаў улады і кіравання ў рэалізацыі навукова-тэхнічнай палітыкі;

шырокі ўдзел навуковай грамадскасці ў фарміраванні і рэалізацыі дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі ў рэспубліцы;

спалучэнне навуковай, даследчай і інавацыйнай дзейнасці з адукацыяй;

пошук адораных дзяцей і дзяржаўная падтрымка ў развіцці іх навукова-тэхнічных здольнасцей;

забеспячэнне свабоды навуковай і тэхнічнай творчасці, абароны інтэлектуальнай уласнасці;

выкарыстанне пераважна эканамічных метадаў дзяржаўнага рэгулявання навукова-тэхнічнай дзейнасці;

падтрымка развіцця рыначных адносін у навукова-тэхнічнай сферы, заахвочванне конкурснасці, канкурэнцыі і прадпрымальніцтва, раўнапраўе ўсіх відаў навукова-тэхнічнай дзейнасці незалежна ад форм уласнасці;

павышэнне прэстыжу навуковай працы і тэхнічнай творчасці;



адкрытасць навукова-тэхнічнай палітыкі, якая прадугледжвае развіццё ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва з іншымі дзяржавамі, стварэнне ўмоў для прыцягнення замежнага капіталу, што накіроўваецца на развіццё навукі і тэхнікі, асваенне навейшых тэхналогій і новых відаў прадукцыі.

Артыкул 6. **Суб'екты дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі**

Суб'ектамі дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі з'яўляюцца:

органы дзяржаўнай улады і кіравання Рэспублікі Беларусь;

юрыдычныя і фізічныя асобы, якія ажыццяўляюць навукова-тэхнічную дзейнасць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

Правы і абавязкі розных суб'ектаў у фарміраванні і рэалізацыі дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі рэгулююцца адпаведным заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

Артыкул 7. **Аб'екты дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі**

Аб'ектамі дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі з'яўляюцца:

навуковая, тэхнічная і інавацыйная дзейнасць;

адносіны паміж удзельнікамі навуковай, тэхнічнай і інавацыйнай дзейнасці;

адносіны паміж органамі дзяржаўнай улады і кіравання і ўдзельнікамі навуковай, тэхнічнай і інавацыйнай дзейнасці.

## Раздзел II
## ПАЎНАМОЦТВЫ ОРГАНАЎ ДЗЯРЖАЎНАЙ УЛАДЫ І КІРАВАННЯ ПА ПЫТАННЯХ РЭГУЛЯВАННЯ РАЗВІЦЦЯ НАВУКІ І ТЭХНІКІ

Артыкул 8. **Органы дзяржаўнай улады і кіравання, якія ажыццяўляюць навукова-тэхнічную палітыку**

Дзяржаўная навукова-тэхнічная палітыка фарміруецца і ажыццяўляецца Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь, Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь, міністэрствамі, дзяржаўнымі камітэтамі, ведамствамі рэспублікі, мясцовымі Саветамі народных дэпутатаў і іх выканаўча-распарадчымі органамі ў адпаведнасці з паўнамоцтвамі, ускладзенымі на іх гэтым Законам і іншымі заканадаўчымі актамі Рэспублікі Беларусь.

### Артыкул 9. Паўнамоцтвы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па фарміраванню і рэалізацыі дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь:

ажыццяўляе заканадаўчае рэгуляванне дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі Рэспублікі Беларусь;

зацвярджае прыярытэтныя напрамкі развіцця навукі і тэхнікі ў рэспубліцы;

устанаўлівае на чарговы год асігнаванні з дзяржаўнага бюджэту Рэспублікі Беларусь на развіццё навукі і тэхнікі;

фарміруе сістэму падатковых, крэдытных, амартызацыйных і іншых заканадаўча ўстанаўліваемых ільгот, якія стымулююць навуковую, тэхнічную і інавацыйную дзейнасць;

ратыфікуе дагаворы і пагадненні з іншымі дзяржавамі, а таксама ўстанаўлівае парадак міжнароднага навукова-тэхнічнага супрацоўніцтва.

### Артыкул 10. Паўнамоцтвы Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь па фарміраванню і рэалізацыі дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі

Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь:

арганізуе падрыхтоўку і ўносіць на разгляд Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь праекты заканадаўчых актаў, прыняцце якіх неабходна для фарміравання і рэалізацыі дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі;

стварае на аснове заканадаўчых актаў Рэспублікі Беларусь прававыя, эканамічныя і арганізацыйныя механізмы, якія стымулююць дзейнасць прадпрыемстваў, аб'яднанняў, арганізацый і ўстаноў па паскарэнню навукова-тэхнічнага прагрэсу;

вызначае паўнамоцтвы міністэрстваў, дзяржаўных камітэтаў і ведамстваў рэспублікі па пытаннях фарміравання і рэалізацыі дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі і кантралюе іх дзейнасць;

стварае ў межах сваіх паўнамоцтваў арганізацыйныя структуры, неабходныя для фарміравання і рэалізацыі дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі;

арганізуе распрацоўку прагнозаў развіцця навукі і тэхнікі;

рыхтуе абгрунтаванні для выбару прыярытэтных напрамкаў развіцця навукі і навукова-тэхнічнага прагрэсу ў рэспубліцы;

распрацоўвае пералік рэспубліканскіх навукова-тэхнічных праграм і парадак іх фарміравання і рэалізацыі;

зацвярджае парадак фінансавання навукова-даследчых і вопытна-канструктарскіх работ і размяркоўвае сродкі рэспубліканскага бюджэту, выдзеленыя на развіццё навукі і тэхнікі;

стварае дзяржаўныя навуковыя ўстановы, фонды і арганізацыі рэспубліканскага падпарадкавання, арганізуе і каардынуе фарміраванне сучаснай інфраструктуры навукова-тэхнічнай дзейнасці;

вызначае парадак фарміравання і выкарыстання пазабюджэтных фондаў для фінансавання навукова-тэхнічнай дзейнасці;

стварае ўмовы для падрыхтоўкі і атэстацыі навуковых, навукова-педагагічных і інжынерна-тэхнічных работнікаў;

заключае міжурадавыя дагаворы і пагадненні аб супрацоўніцтве ў навукова-тэхнічнай сферы, каардынуе і аказвае садзейнічанне развіццю міжнародных сувязей міністэрстваў, дзяржаўных камітэтаў і ведамстваў, прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў у інтарэсах рэспублікі;

прадстаўляе Рэспубліку Беларусь у міжнародных навукова-тэхнічных арганізацыях;

штогод прадстаўляе даклад Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь аб стане развіцця навукі і тэхнікі ў рэспубліцы;

ажыццяўляе іншыя паўнамоцтвы, звязаныя з фарміраваннем і рэалізацыяй дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі, у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

### Артыкул 11. Паўнамоцтвы міністэрстваў, дзяржаўных камітэтаў і ведамстваў Рэспублікі Беларусь па фарміраванню і рэалізацыі дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі

Паўнамоцтвы міністэрстваў, дзяржаўных камітэтаў і ведамстваў Рэспублікі Беларусь па фарміраванню і рэалізацыі дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі вызначаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

### Артыкул 12. Паўнамоцтвы мясцовых Саветаў народных дэпутатаў па фарміраванню і рэалізацыі дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкі

Мясцовыя Саветы народных дэпутатаў кіруюцца ў сваёй дзейнасці дзяржаўнай навукова-тэхнічнай палітыкай Рэспублікі Беларусь і прымаюць актыўны ўдзел у яе фарміраванні і рэалізацыі. У гэтых мэтах мясцовыя Саветы народных дэпутатаў:

уносяць у Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь і Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь прапановы па пытаннях выбару прыярытэтных напрамкаў развіцця навукі і тэхнікі, распрацоўкі рэспубліканскіх навукова-тэхнічных праграм, стварэння дзяржаўных навуковых устаноў і іншых пытаннях дзяржаўнай наву-

